ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

КНІГА НОША

№ 15

ліпень, 2012

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

# Людміла РУБЛЕЎСКАЯ: «Беларускую літаратуру стваралі рамантыкі...»



**– Шаноўная Людміла Іванаўна, Вы былі сябрам журы конкурсу Саюза беларускіх пісьменнікаў «Экслібрыс». Да таго ж, Вы амаль 10 гадоў кіруеце суполкай маладых творцаў «Літаратурнае прадмесце». Цікава, якое пакаленне ідзе ў літаратуру. Ці можна яго параўнаць з Вашым?**

– Любыя параўнанні ў мастацтве некарэктныя. З аднако боку, усе маладыя – што ў часы «Маладняка» і «Узвышша», што ў часы «філалагічнага пакалення», што ў часы «Тутэйшых», калі яны таленавітыя, дык аднолькава дзёрзкія, аднолькава прагнуць эксперыментаў і ўласнага ўкладу ў змяненне свету, ну і маюць патаемную ці відочную веру ў сваю геніяльнасць. А што, хіба яны павінны ўперціся ілбом у падлогу перад папярэднікамі і насіць за класікамі шлейф? Арцюр Рэмбо мне заўсёды здаваўся цалкам зразумелым і блізкім персанажам. Адрозненне ж дыктуе сам кантэкст часу. Сёння большая эклектыка ў творчасці маладых, культ сцёбу, адчуваецца ўплыў сеціўнай літаратуры, у якой ужо выпрацаваны пэўны стандарт, прадыктаваны патрэбай затрымаць увагу выпадковага наведніка блога. Уплывае і шоуцэнтрычнасць сучаснай культуры.Ператварыць твор у перформанс, напісаць апавяданне дзеля адной эфектнай фразы, якая будзе паўтарацца падчас публічнага выканання, выклікаць апладысменты – і адзіная і запомніцца… Але і ва ўсім гэтым няма нічога новага – у часы Рывароля і Шатабрыяна прыблізна так і складваўся літаратурны працэс, і інтэрнэт з поспехам замянялі салоны, публічныя чытанні і ліставанне. Яшчэ адрозненне – сённяшнія маладыя не спадзяюцца «ні на князёў, ні на сыноў чалавечых» у плане ганарараў, выданняў і ўвогуле забяспечанага жыцця ў якасці рэкрутаў ідэалагічнай сістэмы. Калі ўжо яны пішуць наўсур'ёз – дык выдатна ведаючы, што высокая літаратура не толькі не пракорміць, але й прынясе выдаткі і клопаты. Асабліва калі гэта беларуская літаратура. Адсюль вынікае і мінус: прафесійныя літаратары практычна вымерлі як від, і працаваць над эпічным творам (зарабляючы ў гэты час на жыццё іншай працай) можа толькі праўдзівы фанатык, якому не шкада жыцця і мазгоў дзеля вельмі няўдзячнай аўдыторыі і няпэўнай гістарычнай перспектывы. Што зробіш, беларускую літаратуру стваралі рамантыкі і ідэалісты, якім, як Дуніну-Марцінкевічу, не ў лом было самім запрэгчыся ў вазок і ездзіць з оперным спектаклем па навакольных вёсках. Таленавітых хлапцоў і дзяўчатак шмат, дай Бог ім яшчэ ўпёртасці і трывушчасці…

**– Два раманы «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» і «Сутарэнні Ромула», якія нядаўна выйшлі ў «Кнігарні пісьменніка», звязвае адна тэма – сталінскіх рэпрэсій супраць беларускай творчай інтэлігенцыі. Чаму Вы звярнуліся да гэтай тэмы?**

– Тэма гэтая цікавала мяне даўно… Тэма гістарычнай справядлівасці і захавання асобы ва ўмовах таталітарнага ўціску… У нашым доме былі падшыўкі часопісаў «Новый мир», «Звезда», «Москва» канца пяцідзясятых – пачатку шасцідзясятых, і я яшчэ ў маленстве начыталася літаратуры кшталту «Аднаго дня Івана Дзянісавіча». Мы былі знаёмыя з Сяргеем Міхайлавічам Новікам-Пеюном, паэтам, які сядзеў пры трох уладах, з Максімам Лужаніным, які таксама мог тое-сёе распавесці. Потым мне давялося шмат пісаць пра літаратараў «расстралянага пакалення», і кожны раз было страшэнна

*(Працяг на стар. 7)* ➲

**Даведка «Кніганошы»:**

**Людміла Рублеўская – паэт, празаік, крытык, драматург, нарысіст. Аўтар кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Міфы горада Б'», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Хадарэнка Ірына. Свядомаграфія: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 88 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 24).**

Творчасць паэткі І. Хадарэнка, якая відавочна належыць да інтэлектуальнай плыні ў беларускай літаратуры, уражвае пранізлівым адчуваннем рэчаіснасці і самабытнай метафарычнасцю, трывогай за лёс свайго народа і неспатольнай прагай да свабоды.




**Раманава Ларыса. Святая вада: паэзія. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 136 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 25).**

З апорай на традыцыі ствараць прыгажэйшым і лепшым сённяшняе беларускае духоўнае быццё; усе пакуты, усё нядобрае можна перадолець пяшчотай і любоўю, – на такую праграму настройваюць многія вершы Ларысы Раманавай. Аўтар творыць прастору для сваіх вершаў. Гэтым яна найперш цікавая, і ў тым выпадку, калі перакрэслівае і руйнуе звыклыя ўяўленні пра розныя жыццёвыя праявы: «Вучыся сасне ў сасны, бамбуку ў бамбука... уцякай ад самога сябе. Ісціна не асягнецца, калі не адслоніш сябе» (Мацуа Басё). У «вандроўнай» паэзіі Ларысы Раманавай – імкненне зведаць сутнасць рэчаў, боль існавання, раствораны ў светабудове, спакойная радасць самоты.




**Рублеўская Людміла. Сутарэнні Ромула: раманы. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 520 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 26).**

Два раманы Людмілы Рублеўскай – «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію» і «Сутарэнні Ромула» – атрымалі шырокі розгалас у грамадстве. Іх звязвае тэма сталінскіх рэпрэсій супраць беларускай творчай інтэлігенцыі, а таксама тое, што дзеянне адбываецца і ў сучаснасці, і ў мінулым, раскрываючы тэму гістарычнай памяці. Прозе Л. Рублеўскай уласцівыя псіхалагічная глыбіня, эпічнасць, філасофскі роздум і напружаны сюжэт, а таксама спроба сфармуляваць беларускую нацыянальную ідэю.




**Дранько-Майсюк Леанід. Кніга для спадарыні Эл: проза, вершы, п'еса. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 200 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня Пісьменнікаў»; вып. 27).**

Багацце спадарыні Эл бадай што роўнае багаццю каралевы Боны, і характар такі ж… Аўтар упэўнены: цвярозы погляд на каханне гэтак жа патрэбны, як і рамантычны погляд, а ў паэзіі праўдзівы той, хто ператварыў сваю маладосць з узроставай катэгорыі ў эстэтычную, упрыгожыў яе памяркоўнасцю і абараніў ад зайздрасці…




**Усеня Алесь. Мой лістапад...: успаміны. – Мінск: Медысонт, 2012. – 248 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 28).**

Сярод пісьменнікаў пануе думка: «Калі напішаш успаміны, дык адразу памрэш...» Аўтар вырашыў правесці эксперымент на сабе. Гэтая кніга – беспрэцэдэнтная па сваёй шчырасці і справядлівасці.




**Дубовский Кирилл. Хороший роман: рассказы. – Минск: Логвинов, 2012. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Зборнік склалі апавяданні 2004–2010 гадоў. Чытаецца ён лёгка і прыемна, нягледзячы на невясёлыя тэмы некаторых апавяданняў: трагічную смерць маладога графамана, нялёгкія офісныя будні, няшчаснае каханне, спробу нацыянальнага самавызначэння, сумную гісторыю ад работніка заапарка і не менш сумную споведзь менеджара сярэдняга звяна.




**Манцэвіч Наста. Птушкі: тэкст. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 50 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Зборнік Насты Манцэвіч складаецца з вершаў і апавяданняў, паміж якімі няма фармальнай мяжы. Яна адсутнічае таму, што ўкладальнікі не бяруць на сябе адказнасць вызначыць, дзе ў гэтым корпусе тэкстаў заканчваецца проза і пачынаецца паэзія. Пакідаем гэта на волю чытача.




**Ляхновіч Павел. Зялёны дуб: аповесць, апавяданні, навелы. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 180 с.**

У новым зборніку Паўла Ляхновіча сабраныя розныя па жанры творы, у аснову якіх пакладзены багаты жыццёвы досвед аўтара, ягоны светапогляд і, натуральна, фантазія! Чытач знойдзе і аповесць, і апавяданні, і ваенна-марскія мініяцюры-навелы. Сур'ёзныя драматычныя тэксты тут суседнічаюць з прыгодамі і гумарам. Менавіта яскравы гумар таленавітага расказчыка стаў той «разынкай», з-за якой чытачы і слухачы аповедаў «дзядзькі Паўла» назаўжды сталіся закаханымі ў творчасць гэтага суровага і адначасова лірычнага паляўнічага на музаў...

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**На абпаленых крылах: кніга ўспамінаў непаўналетніх вязняў фашызму; укл. Л. Г. Філатаў, Л. П. Раманенка, І. В. Бараноўскі. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 240 с.**

У кнізе сабраныя ўспаміны, а таксама аповеды пра былых непаўналетніх вязняў фашызму, жыццё якіх звязанае з Берасцейшчынай. Гэта другая па ліку кніга пра дзяцей вайны, якія зведалі разлуку і страту бацькоў ды сваякоў, голад і жах канцэнтрацыйных лагераў, знясільваючую рабскую працу. Яна – працяг першай кнігі ўспамінаў «Асколкі болю», ад выхаду якой у свет мінула ўжо шмат часу. З тых, хто пакінуў тут свае ўспаміны, многія ўжо не жывуць. Гэтая кніга – у памяць пра іх і для нашчадкаў, каб ведалі і помнілі.




**Южык Міхась. Сузор'е вокнаў: кніга паэзіі. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 112 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

Кніга «Сузор'е вокнаў» – спроба аўтара ў жанры лірычнай паэзіі, яго светапогляд, выяўлены ў вершах, напісаных цягам апошніх гадоў. У зборніку таксама змешчаныя пераклады твораў Эдгара По («Крумкач»), Івана Буніна і Барыса Пастарнака.




**Брава Алена. Рай даўно перанаселены: раман, аповесці, апавяданні. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 276 с. – (Другі фронт мастацтваў).**

У рамане «Менада і яе сатыры» аўтар выступае ў розных іпастасях: то следчага, то пракурора, то адваката, то псіхіятра, то журналіста, то назіральніка, то паталагаанатама загубленай душы. Гераіня аповесці «Рай даўно перанаселены» займаецца падрабязнай рэканструкцыяй уласнага дзяцінства, бязлітасна аналізуючы існаванне трох пакаленняў жанчын, якія нарадзіліся «пад халоднымі сонцамі ўяўных велічыняў». Узаемаадносіны беларускай эмігранткі і былога салдата вермахта – у цэнтры вострасюжэтнай аповесці «Дараванне», дзеянне якой адбываецца ў сучаснай Нямеччыне. У кнігу таксама ўключаная першая аповесць аўтара «Бязлітасны мой воін» і шэраг апавяданняў.




**Календа Сяргей. Трохлітровая проза: проза. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 252 с.**

Зборнік складаецца з трох частак. Першая частка называецца «Архітэктурныя апавяданні», у іх аб'ядноўваецца ўсё адным героем – архітэктарам, але апавядаецца пра розных людзей, якія жывуць у ягоных дамах. Другую частку склалі тэксты, якія ўжо часткова друкаваліся ў ранейшай кнізе пісьменніка, толькі цяпер гэты тэкст пашыраны ўтрая, раздзел называецца «Генерацыя фанцікаў і фішак». Трэцяя частка – збор апавяданняў пад назваю «Скура зямлі».




**Жадан Сяргей. Anarchy in the UKR: раман; пер. з укр. Алег Жлутка. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 224 с.**

«Anarchy in the UKR» – кніга пра асноўныя тэндэнцыі развіцця джазу, пра камунізм як мадэль шоу-бізнесу, пра фінансавую стабільнасць як аснову рэвалюцыйнага руху, пра дэпрэсію як складнік сістэмы адукацыі, пра любоў як магчымасць гетэрасэксуальнай калектыўнай памяці, пра памяць як вызваленне, пра смерць як працяг памяці…




**Валасюк Лявон. Вяртанне берасцейскай стралы: раманы і аповесці, апавяданні і абразкі. – Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2012. – 300 с.**

«Вяртанне берасцейскай стралы» – другі па ліку празаічны зборнік вядомага берасцейскага паэта і мастака Лявона Валасюка. У новай кнізе Валасюк-празаік раскрываецца як руплівы абаронца гістарычнай памяці (раманы «Не здабыўшыя зямлі абыходзяцца балотам...», «Вяртанне берасцейскай стралы», аповесць «Студэнцкія канікулы»), удумлівы даследчык узаемаадносін «камандзір – падначалены», «салдат-першагодак – вайсковец апошняга года службы» (аповесць-дзённік «Дзямоба»). Згадкі пра далёкую і блізкую гісторыю трывала звязаныя ў пісьменніка з сённяшняй рэчаіснасцю. Асобныя апавяданні аўтара падсвечаныя ноткамі гумару і незласлівай іроніі.




**Жырандоля: літ. альманах Брэсцкага абл. аддзял. Саюза бел. пісьменнікаў, № 4, 2012. – Брэст: ААТ «Брэсцкая друкарня», 2012. – 324 с.**

У чацвёрты выпуск альманаха Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў увайшлі розныя па жанрах творы сяброў суполкі, а таксама іншых літаратараў вобласці, якія падтрымліваюць выданне, клапоцяцца пра лёс роднага слова.




**Geniush loci: творы пераможцаў літаратурнага конкурса да стагоддзя Ларысы Геніюш; укладальнік А. Хадановіч. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 180 с.**

Гэты зборнік – творчая справаздача пераможцаў конкурса маладых літаратараў да стагоддзя Ларысы Геніюш, які ладзіўся ў 2010 г. Беларускім ПЭН-цэнтрам. У зборнік увайшлі вершы, проза і пераклады А. Адамовіча, Ю. Аляксеенкі, А. Арцёмава, Т. Цуканавай, Д. Вашкевіч, А. Волкавай, К. Дубоўскага, А. Емяльянава, С. Календы, П. Капанскага, Ю. Качан, К. Макарэвіч, А. Пакроўскага, М. Паўлоўскай, А. Радачынскай, А. Рудака, Я. Санько, Ц. Хоміча, Г. Шэпт.

# Лаўрэаты «Экслібрыса»



14 чэрвеня былі ўганараваныя дыпламанты, фіналісты і пераможцы літаратурнага конкурсу для маладых пісьменнікаў «Экслібрыс», які ладзіла ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Удзел у конкурсе ўзяло больш за сто аўтараў, пяць з якіх былі названыя пераможцамі: Алеся Башарымава, Алесь Замкоўскі, Антон Рудак, Вера Стромава, яна ж Юлія Цімафеева, ды Ганна Янкута. Журы таксама вылучыла пятнаццаць фіналістаў. Яшчэ пятнаццаць удзельнікаў атрымалі заахвочвальны дыплом.

Урачыстасць прайшла ў Гарадской мастацкай галерэі твораў Леаніда Шчамялёва, вядоўцамі вечарыны былі кіраўнікі двух літаратурных аб'яднанняў Беларусі – старшыня Рады СБП Барыс Пятровіч і Андрэй Хадановіч, які ўзначальвае беларускі ПЭН-цэнтр. Калі для ПЭНа правядзенне конкурсаў маладых літаратараў – ужо традыцыя, то для СБП гэты быў першы досвед. Удзел у імпрэзе таксама ўзялі сябры журы Віктар Жыбуль і Людміла Рублеўская і, натуральна, дыпламанты «Экслібрыса».

Адкрываючы вечарыну, Барыс Пятровіч расказаў, што конкурс быў задуманы як стартавая пляцоўка для Школы маладых літаратараў, якую плануе адкрыць СБП неўзабаве. Лекцыі ў школе будуць чытаць адмыслоўцы ў літаратуразнаўстве, філалогіі, журналістыцы, майстар-класы для навучэнцаў правядуць літаратары старэйшага пакалення. Барыс Пятровіч выказаў спадзеў, што конкурс «Экслібрыс» станецца традыцыйным, і крыху расказаў пра тое, як вялася праца журы. На падрыхтоўчым этапе кожная творчая праца, якая ўдзельнічала ў конкурсе, атрымала свой шыфр, такім чынам сябры журы Эдуард Акулін, Ірына Багдановіч, Аксана Данільчык, Віктар Жыбуль, Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч, Людміла Рублеўская, Міхась Скобла, Андрэй Хадановіч ацэньвалі тэксты, не ведаючы, які аўтар стаіць за імі. Імёны былі названыя аргкамітэтам конкурсу толькі пасля таго, як суддзі аддалі свае галасы за тыя ці іншыя працы.

Не абышлося і без містыфікацый, пра гэта расказаў Андрэй Хадановіч. Некаторыя ўдзельнікі ўзялі ўдзел у конкурсе пад псеўданімамі, знайшліся і такія, што не пажадалі іх раскрыць.

Былі для сябраў журы і неспадзяванкі: так, пад псеўданімам Вера Стромава ў пераможцы конкурсу выйшла Юлія Цімафеева, больш вядомая як перакладчык. Перамогу ёй прынесла апавяданне, якое, паводле яе прызнання, было яе першым досведам у прозе. Абсалютным пераможцам конкурса «Эклібрыс» стала перакладчыца і паэтка Алеся Башарымава, якая набрала максімальную колькасць галасоў за ўрывак з перакладу са шведскай мовы першых раздзелаў кнігі «Белы каменьчык» Гунэль Ліндэ. За пераклад Алесі свае галасы аддалі ўсе сябры журы.

Сярод пераможцаў і фіналістаў конкурсу былі як ужо вядомыя ў літаратурных колах імёны, напрыклад, Антон Рудак, Ганна Янкута, Алёна Беланожка, Павел Капанскі ды інш., так і новыя для сяброў журы імёны такія як Антось Уласенка ці Алесь Яшчанка.

Напрыканцы вечарыны адбыўся канцэрт спявачкі Паліны Рэспублікі.

**Яшчэ раз нагадаем імёны канкурсантаў, адзначаных журы:**

**Пераможцы:**
Алеся Башарымава (пераклад)
Алесь Замкоўскі (вершы)
Антон Рудак (вершы)
Вера Стромава (проза)
Ганна Янкута (пераклад)



**Фіналісты:**
Алена Беланожка (проза, вершы)
Андрэй Вылінскі (пераклад)
Наста Грышчук (вершы)
Аляксандра Дварэцкая (проза)
Алесь Емяльянаў (вершы)
Сяргей Календа (проза)
Сяржук Камель (вершы)
Павел Капанскі (проза)
Андрэй Касцюкевіч (пераклад)
Віктар Мельнікаў (вершы)
Павел Надольскі (вершы)
Аня Рудак (вершы)
Антось Уласенка (проза)
Алена Хрышчановіч (вершы)
Алесь Яшчанка (проза, вершы, пераклад)

**Заахвочвальны дыплом:**
Раман Абрамчук (вершы)
Аляксандр Апон (проза)
Зміцер Баяровіч (проза, вершы)
Сяргей Белаяр (проза)
Наталля Бойка (пераклад)
Валярына (вершы)
Марына Варабей (вершы)
Дар'я Вашкевіч (проза, пераклад)
Сандра Вецер (вершы)
Ганна Воранава (вершы)
Ганна Гараніна (вершы, пераклад)
Марыя Лапо (проза)
Дар'я Латышава (вершы)
Воля Чайкоўская (вершы)
Наталля Ярмольчык (проза)

Конкурс «Экслібрыс» арганізатары прысвяцілі класікам беларускай літаратуры, юбілеі якіх адзначаюць сёлета: Паўлюку Багрыму, Якубу Коласу, Янку Купалу, Алесю Гаруну, Цішку Гартнаму, Максіму Танку, Янку Брылю і Міхасю Стральцову.

**Прэсавая служба СБП**




**Плавінскі Мікалай. Войска Полацкага княства ад часоў Рагвалода да эпохі Усяслава Чарадзея. – Мінск: Галіяфы, 2012. – 48 с.: іл.**

Кніга прысвечана асвятленню ваеннай гісторыі першай беларускай дзяржавы – Полацкага княства ў X-XI стагоддзях. У папулярнай форме апісаны склад і колькасць войска полацкіх князёў, яго ўзбраенне і тактыка. Кніга змяшчае шматлікія ілюстрацыі: малюнкі і фотаздымкі археалагічных знаходак, рэканструкцыі знешняга выгляду ваяроў Полацкага княства. Разлічана на шырокае кола чытачоў, зацікаўленых гісторыяй Беларусі.




**Рагойша Вячаслаў. Мой Трыглаў: Кніга пра Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 340 с.**

Кнігу склалі новыя артыкулы і эсэ доктара філалагічных навук, прафесара Вячаслава Рагойшы пра малавядомыя старонкі жыцця і творчасці трох класікаў беларускай літаратуры, што ўяўляюцца яму ў вобразе Трыглава – найвышэйшай гары Славеніі. У прыватнасці, чытач даведаецца пра Янку Купалу як бацьку нацыі, лексікографа, пра прыязныя ўзаемаадносіны Якуба Коласа з рускай паэтэсай Святланай Сомавай (упершыню поўнасцю публікуюцца лісты да яе народнага паэта Беларусі), пра творчую спрэчку Максіма Багдановіча з вядомым рускім музыказнаўцам і кампазітарам Барысам Асаф'евым і інш.

У кнізе змешчаны таксама вершы і бібліяграфія публікацый яе аўтара пра знакамітыя «вяршыні» беларускага літаратурнага Трыглава.




**Марыя Стагановіч. Мае ўспаміны. Камент. Наталлі Гардзіенкі. – Мінск: Лімарыус, 2012. – 200 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Пабачыла свет трэцяя кніга ў серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка». Гэта «Мае ўспаміны» Марыі Стагановіч (1898–1995) – жонкі пасла польскага сойму Аляксандра Стагановіча, чые мемуары распачыналі ў 2011 г. згаданую серыю. Храналагічна ўспаміны ахопліваюць час ад канца XIX ст. да 1917 г. Тут акрамя апісанняў нацыянальнай традыцыйнай абраднасці ёсць згадкі, напрыклад, пра навучанне на прафесійных курсах у Менску, а таксама аповед пра бежанства ў Смаленшчыну ў часы першай сусветнай вайны. Марыя цікава параўноўвае сялянскі побыт у вёсцы Ельнінскага павета з побытам на роднай Наваградчыне, дзе яе бацька быў упраўляючым у маёнтках графа Храптовіча-Буценева. Дадаткам да ўспамінаў выступаюць запісы народных песень, нацыянальных страваў ды лекавых якасцяў розных зёлак, што Марыя памятала ад сваёй маці. Кніга ілюстраваная фотаздымкамі з сямейнага архіва ды суправаджаецца якаснымі каментарамі.




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Выпуск 9. Составление, научное редактирование А. Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2012. – 280 с.**

Дзявяты выпуск дайджэста склалі артыкулы, прысвечаныя пытанням старажытнай і сярэднявечнай гісторыі беларускіх земляў і продкаў беларусаў: «Літоўскі народ» XIV стагоддзя з моўнага, культурнага і рэлігійнага пункту гледжання» (А. Дайлідаў), «Балты і балцкія дыялекты ў старажытнай Беларусі» (В. Свяжынскі) і інш.




**Доля беларускае культуры пад Саветамі. 1920–1991 гг. Укладальнік А. Е. Тарас. – Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры, 2012. – 336 с.: малюнкі. – (Неизвестная история).**

Гэтая кніга складаецца з дзвюх частак. У першай частцы паўторана даследаванне вядомага эміграцыйнага гісторыка айчыннай культуры Уладзіміра Сядуры (Глыбіннага), якое ўпершыню было надрукавана ў Мюнхене ў 1958 годзе. Другая частка складаецца з пяці артыкулаў, прысвечаных аналізу развіцця беларускай культуры ў наступны перыяд. Адзін напісаў Ул. Сядура, чатыры іншыя – нашыя сучаснікі. У сваёй сукупнасці ўсе гэтыя працы дэталёва асвятляюць пытанні развіцця беларускай прафесійнай культуры за 70 гадоў савецкай улады.




**Тарас Анатоль. 1812 год – трагедия Беларуси. – Рига: Институт беларуской истории и культуры, 2012. – 248 с.: ил. – (Неизвестная история).**

У чэрвені 2012 года споўнілася 200 гадоў з дня пачатку Франка-рускай вайны 1812–1815 гадоў. Аўтар кнігі паказвае, якія страшэнныя бедствы прынесла тая далёкая вайна на Беларусь. Сярод іх – пагібель чвэрці насельніцтва «беларускіх губерняў» у выніку ваенных дзеянняў, голад і эпідэміі; каласальныя разбурэнні ў гарадах і сельскай мясцовасці; поўны развал эканомікі; дэмаралізацыя ўсіх пластоў насельніцтва. Для многіх чытачоў стане адкрыццём той факт, што ў пакутах нашых продкаў былі вінаватыя не толькі заваёўнікі-французы, але расійскія ўлады на чале з сваім царом, і што для беларусаў «вайна дванаццатага года» не была «айчыннай».




**Анціпенка Алесь. Быць (пры) сутным. – Вільня, 2012. – 112 с. – Бібліятэка «Беларускі калегіюм».**

Кніга складаецца з тэкстаў, напісаных у розныя гады, якія ў сур'ёзнай і не вельмі форме рэпрэзентуюць праблемы беларускай ментальнасці і сучаснага грамадства, а таксама адлюстроўваюць зацікаўленні аўтара іншымі філасофскімі ды інтэлектуальнымі праблемамі.




**Сіліцкі Віталь. Адкладзеная свабода. – Вільня, 2012. – 130 с. – Бібліятэка «Беларускі калегіюм».**

Гэтая кніга – пасмяротнае выданне аднаго з найбольш важных тэкстаў выбітнага беларускага інтэлектуала Віталя Сіліцкага, у якім на аснове параўнальнага аналізу апісваюцца працэсы паўставання і фармавання персаналісцкіх рэжымаў у Сербіі і Беларусі.




**Арлоў Уладзімір. Пакуль ляціць страла. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. – 400 с.: іл.**

Назвай новая кніга Уладзіміра Арлова пераклікаецца з ранейшым зборнікам гістарычных апавяданняў і аповесцяў «Дзень, калі ўпала страла». Але гэтым разам пісьменнік пайшоў не такім традыцыйным шляхам. Новая кніга выйшла ў серыі «Бібліятэка радыё «Свабода» і складзеная ў форме адказаў на пытанні, якія скіроўвалі пісьменніку слухачы радыё. Абмяркоўваецца шырокае кола гістарычных, палітычных і асабістых тэмаў – ад удзелу мурынаў у паўстанні Каліноўскага і допінг-кантролю на рыцарскіх турнірах да першых эратычных перажыванняў, творчых метадаў і прагнозаў на канец свету. Кніга, падзеленая па-караткевічаўску на раздзелы «Было», «Ёсць» і «Будзе», насычаная фірмовым гумарам.




**Дубавец Сяргей. Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. – 464 с.: іл.**

На Каляды 1980 года ў дашчэнту савецкім Менску нацыянальная ідэя выйшла з падпольля, і нарадзілася першая публічная арганізацыя – Беларуская спеўна-драматычная майстроўня. Лёсам удзельнікаў легендарнай суполкі стала незалежнасць краіны. Кнігу склалі інтэрв'ю з удзельнікамі «Майстроўні», запісаныя на працягу 2010 года.




**Верхняе Панямонне: альманах лакальнай гісторыі. Вып. 1. Рэд.-уклад. Дз. В. Віцько. – Мінск: Логвінаў, 2012. – 154 с.**

Выданне прысвечана лакальнай гісторыі Верхняга Панямоння. Гісторык Андрэй Латушкін у артыкуле вызначае дакладную дату заснавання Стоўбцаў, Сяргей Грунтоў апісвае каталіцкія могілкі мястэчка Новы Свержань, а Дзмітрый Віцько і Яніна Пушкіна даследуюць мікратапаніміку вёскі Аталезь і ваколіцаў. Друкуецца шэраг цікавых архіўных дакументаў – перапіска Радзівілаў часоў Вялікай Паўночнай вайны, рэвізія пушчаў, галерэя старых фота Стоўбцаў.




**Малое Палесьсе: гісторыка-краязнаўчы літаратурна-мастацкі альманах Друцка-Бярэзінскага краю. Пад рэд. А. Аляхновіча, В. Арцюховіча, М. Баравулі, Я. Дэмух, В. Лапаціна. – Крупкі, 2011. – 250 с.**

У альманаху-штогадовіку «Малое Палесьсе» прадстаўленыя матэрыялы і дакументы па гісторыі і культуры аднаго з рэгіёнаў гістарычнай Усходняй Літвы (сучасная Усходняя Беларусь) – Друцка-Бярэзінскага краю. Працы, сабраныя пад вокладкай, адлюстроўваюць розныя перыяды гісторыі гэтых земляў – ад часоў жалезнага веку да нашых дзён. Большасць з іх публікуецца ўпершыню.




**Homo Historicus 2012. Гадавік антрапалагічнай гісторыі; пад рэд. А.Ф. Смаленчука. – Вільня: ЕГУ. 2012. – 526 с.**

Выданне працягвае традыцыю гісторыка-антрапалагічнага падыходу да вывучэння мінулага Беларусі, якую распачалі першыя тамы гадавіка (Homo Historicus 2008 і Homo Historicus 2009). Традыцыйная для гадавіка праблема Чалавека ў беларускай гісторыі ў матэрыялах чарговага тома спалучаецца з даследаваннямі міфалогіі, а таксама прэзентацыяй невядомай Беларусікі ў архівах і бібліятэках замежжа, раздзелам, прысвечаным памяці В. Скалабана.




**Ляхоўскі Уладзімір. Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX – І-й палове XX ст. (да 1939 г.). – Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. – 483 с.**

У манаграфіі, напісанай у форме навукова-папулярнага нарыса, разглядаецца грамадска-палітычная і культурна-асветная праца беларускіх маладзёвых суполак з другой паловы XIX ст. і да пачатку Другой сусветнай вайны ў агульным кантэксце развіцця нацыянальна-вызвольнага руху і станаўлення грамадзянскай супольнасці ў Беларусі.




**Ліс-Блонскі Станіслаў. Балахоўцы. – Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства; Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012. – 225 с. Пер., прадм., камент.: Андрэй Вашкевіч, Андрэй Чарнякевіч.**

Выглядае так, што Балаховіч любіў, каб падуладныя называлі яго «бацькам», ды і сам неаднаразова паўтараў: «Я, бацька Балаховіч». «Па вашым закліку я, бацька Балаховіч, – гучала адна з першых ягоных лістовак, – устаў на чале сялянскіх атрадаў… Я дам вам зброю, дам адважных кіраўнікоў. Тысячы вашых сялян ідуць са мною; няма сілы, якая здолее зламаць гэтую вялікую народную сялянскую армію.» (З прадмовы аўтара да кнігі).

# «І забаўляе душу галава...»




**Камоцкі Алесь. Навошта было мінулае: вершы. – Мінск: Радыёла-плюс, 2012. – 124 с.: іл.**

Выйшаў доўгачаканы зборнік вершаў знакамітага барда і паэта Алеся Камоцкага. Рэдактар выдання і аўтар прадмовы – сябар і «паплечнік» аўтара, народны паэт Рыгор Барадулін.

«Я не паспеў дастаць да неба…» сумнавата заўважае паэт Алесь Камоцкі. Ён не звык да прыземленасці. Голас барда Алеся Камоцкага хораша пачувае сябе і ў міжзор'і ўдзячных сэрцаў. Філосаф па адукацыі, тонкі лірык на паслугах у роднага слова. У век усеагульнай папсы яго песні вяртаюць душу да вытокаў, натуральна гучаць беларускаму вуху, не губляюцца ў сугуччы песняў суседзяў.

Толькі песні могуць вечна жыць,
А людзей на доўга не хапае,
Ім не перайсці сляпой мяжы,
За якой так хораша спяваюць.

Гэта не лозунг, гэта крэда Алеся Камоцкага, гэта практыка, гэта ўзнёслая паўсядзённасць глыбока нацыянальнага барда», – піша ў прадмове да выдання Рыгор Барадулін.

І той, хто быў на канцэрце барда Алеся Камоцкага ці хаця б чуў яго песні, пагодзіцца з мудрымі словамі Дзядзькі Рыгора.

Адказ на філасофскае пытанне-назву кнігі чытаем у вершы з такім жа назовам:

Калі пажаданым атулішся,
Натолішся аж цераз край
– Навошта было мінулае, –
У будучыні не пытай.

Кніжка атрымалася «філасофскай», мудрай, і прачытаўшы некалькі вершаў, няма сумневу, што аўтар – «філосаф па адукацыі»:

Час
Час упарта робіць заўтра кожны дзень,
Аддае сябе аўторак серадзе.
Толькі памяць дазваляе ход назад,
Ды і то, каб незваротнасць паказаць.

І гэтае першае ўражанне ад кнігі не пакідае, пакуль не натрапіш на іншы верш:

Цела натоліць смагу вадою,
А чым супакоіць мне прагу душы?
Як у памкненні яднання з табою
Выйсці за межы і не саграшыць…

А каб чытач не засумаваў, лірычныя вершы «перабіваюцца» жартаўлівымі, напрыклад, паміж двума вершамі пра каралеваў – вершаваны рэцэпт, як гатаваць верашчаку.

Такая звычайная з'ява прыроды як узыход сонца дзякуючы фантазіі паэта ператвараецца ў камічную сітуацыю:

Ранкам
Спалохаў вецер ранкам цішыню
І, абудзіўшы сонную надзею,
Маўклівай хмарай сонца агарнуў,
Каб на зямлю пакуль што не глядзела.

…а хмара сарамліва заірдзела.

Значную частку кнігі складае раздзел перакладаў, а дакладней «пераспеваў» (як слушна іх назваў Рыгор Барадулін), арыгінальна пададзеных: на мове арыгінала друкуецца прозвішча аўтара і назва твора, праілюстраваныя фотаздымкамі ці акордамі песняў.

У параўнанні з папярэднім зборнікам «48», новая кніга «паказвае» рост майстэрства паэта, мудрасць і «сталасць» вершаў. Вершы сталі больш ёмістымі і насычанымі: вобразамі, сэнсам і думкамі.

Застаецца дадаць, што зборнік удала аздоблены фотаздымкамі Сяргея Плыткевіча.

**А.С.**

# «Беларускую літаратуру стваралі рамантыкі...»

*(Пачатак на стар. 1)*

крыўдна, што гэтыя людзі, якія жылі дзеля Беларусі, забытыя, як і іх творы. Неацэнны досвед – праца са слынным гісторыкам і архівістам Віталём Скалабанам, дзякуючы якому для мяне адкрыліся таямніцы архіваў. Рэпрэсаваная літаратура – гэта той пляц, на якім можна збудаваць цэлы пантэон нацыянальных герояў.

**– Вы плённа працуеце яшчэ і як літаратурны крытык: пішаце рэцэнзіі, робіце крытычныя водгукі на творы і кнігі іншых аўтараў, уважліва сочыце за кніжнымі навінкамі… У якім кірунку, на Ваш погляд, рухаецца беларуская літаратура? І яшчэ: якую кніжку Вы параілі б чытачам «Кніганошы»?**

– У беларускай літаратуры на сёння запоўненыя ўсе жанравыя нішы, і мне непрыемна чуць пра яе «недасканаласць», недаробленасць, з-за якой нібыта яе і не ведаюць. Гэта як у рамане Курта Ванегута, дзе ў грамадстве будучага на самых таленавітых танцораў начэплівалі гіры і ланцугі, каб іх танец не крыўдзіў тых, хто кульгае ад прыроды. Не трэба пераносіць гістарычныя абставіны на самую з'яву, якая ў іх існуе, дакладней, выжывае за кошт энтузіязму і ахвярнасці. Рухаецца наша літаратура туды ж, куды ўсе літаратуры свету: не ад кропкі А да кропкі Б, а ад аднаго твора да другога, ад імя – да імя, якія не горшыя і не лепшыя.

Няма ў нас пакуль што так званага «новага рэалізму», які ў Расіі абвяшчаюць «адказам постмадэрнізму». Нашая літаратура ўсё яшчэ вырашае для сябе пытанне па стварэнні прымальнага нацыянальнага міфу, што ў другіх народаў даўно вырашыў рамантызм. Таму неабходныя – і будуць з'яўляцца – творы кшталту «Агнём і мячом». З апошніх вартых кніжных навінак, якія я атрымала, – кніга Алены Брава «Рай даўно перанаселены» і Андрэя Федарэнкі «Ланцуг».

**– На прэзентацыі кнігі «Сутарэнні Ромула» Вы сказалі, што зараз працуеце над новым раманам. Распавядзіце чытачам «Кніганошы» пра што будзе Ваш новы твор?**

– Пачала я пісаць яго яшчэ да «Сутарэння Ромула». Задумала гэткі прыгодніцкі, авантурны твор для падлеткаў – гібрыд «Гары Потэра» без містыкі, «Гардэмарынаў» і «Трох мушкецёраў». Напісала пару раздзелаў… А тады кінула, мяне паглынула стыхія іншага раману, тэма сталінскіх рэпрэсій… Пасля адчула, што трэба зноў пераключыцца… І перанеслася ў 18 стагоддзе разам са сваімі героямі. Фактычна, атрымалася гэткае гістарычнае фэнтэзі. Называецца – «Прыгоды Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега». Пранціш Вырвіч, навучэнец Менскага езуіцкага калегіуму, уцякае з роднай навучальнай установы, і па дарозе сустракаецца з полацкім алхімікам Баўтрамеем Лёднікам, які здабыў філасофскі камень, але адрокся ад яго, а таксама ад усялякай эзатэрыкі… Дзеянне адбываецца ў Слуцку, Менску і Полацку, ва ўсіх гарадскіх сутарэннях, па Слуцку ездзіць праобраз танка з паравым рухавіком, у Менску з'яўляецца новы прывід, а ў Полацку знаходзяць дзіду Святога Маўрыкія… Карацей, аўтар атрымаў задавальненне. І зразумеў, што авантуры не скончыліся. Зараз я завершыла другую кнігу серыі. Яна называецца «Авантуры студыёзуса Пранціша Вырвіча» – мой герой стаўся студэнтам Віленскай акадэміі, а Баўтрамей Лёднік – прафесарам. На гэты раз персанажаў закіне ажно ў Ангельшчыну. А нядаўна пачала трэцюю кнігу – гэта ўжо першыя гады царавання Станіслава Панятоўскага, а Пранціш Вырвіч – адважны драгун. Вось такая трылогія… А калі яна сустрэнецца з чытачом – пакуль сказаць не магу. Першыя раздзелы былі надрукаваныя ў часопісе «Куфэрак Віленшчыны». Спадзяюся, знойдуцца выдаўцы, якія зацікавяцца «Авантурамі».

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Леанід Галубовіч. З гэтага свету: вершы пасля вершаў. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 108 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 23).**

Гэтая кніга – плён дванаццацігадовага публічнага маўчання паэта. Апублікаваныя пасля ягонага зароку не пісаць больш вершаў, тэксты ёсць пазнакамі водгукаў душы на зрухі і праявы сучаснасці і метафарычным аналізам свайго ўнутранага жыцця, а таксама невынішчальнасці паэзіі.

...так я сыходзіў ад вершаў,
быццам ад першай дзяўчыны, –
самай прыгожай і лепшай –
без абвяшчэння прычыны.
Проста жыцця па-за сэнсам
прагла душа, як збавення,
пішучы зболеным сэрцам
словы крывёю па венах...




**Алесь Няўвесь. Глобус Беларусі. Вершаваныя фельетоны. – Смаленск: Універсум, 2011. – 431 с.**

Творчасць Алеся Няўвеся – унікальная з'ява ў сучасным літаратурным працэсе. Яна ўражвае – як маштабамі кольксана-старонкавымі, гэтак і маштабамі якасна-мастацкімі. Вострае пяро сатырыка адгукаецца, здаецца, абсалютна на ўсе вострыя праблемы, што існуюць у краіне. Па кнігах А. Няўвеся можна вывучаць палітычную, эканамічную, грамадска-культурную сітуацыю Беларусі.

Дай Божа дажыць нам да часоў, калі Няўвесевы фельетоны стануць непатрэбнымі. Покуль жа, як канстатуе паэт, «Яна, улада, б'е пад дых. / І сёння – скажам прама – / Ты, мой чытач, / Не знойдзеш кніг / Ні ў шапіках, ні ў крамах». Таму нагадваем, што і з новымі, і з ранейшымі фельетонамі Алеся Няўвеся можна пазнаёміцца на сайце: www.alesnauwes.com.




**Васіль Быкаў. Гарадзенскі архіў: Невядомыя творы, незавершанае, нататнікі за 1957–1972 гады. – «Гарадзенская Бібліятэка», 2012, вып. 15.**

У гэтай кнізе – перадгісторыя і пачатак вялікай Быкаўскай эпапеі. Найбольш раннія творы, якія ніколі раней не друкаваліся (аповесць «Атака», апавяданне «Жалезны камандзір»), незавершаная аўтабіяграфія, запісы з нататнікаў, пераклады. Васіль Быкаў з'ехаў з Гародні ў Мінск у канцы 70-х, паперы, напрацаванае, нарыхтаванае забраў з сабой. Але, як высветлілася, значная частка засталася ў Гародні... Сяргею Шапрану ўдалося знайсці архіў і падрыхтаваць да друку.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: logvinovpress@mail.ru,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 15
ліпень, 2012
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 15, 20.7.2012.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com